*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*


# Слонімскі край



2020, № 2(48). Студзень


# Лёс Леснічоўкі Уладзіміра Сасноўскага

*Супрацоўнікі Сынковіцкай бальніцы, 1960-я гады*

### Прыпынак каля аленя

Калі ехаць са Слоніма на Зэльву праз вёску Чамяры, то пасажыры пры лесе з правага боку заўважаць некалькі драўляных будынкаў, сярод якіх ёсць і двухпавярховы. Яны знаходзяцца амаль на мяжы Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў. А за будынкамі здалёк свеціцца агеньчыкамі прыдарожная карчма вядомага на Зэльвеншчыне фермера Міхаіла Макея. Яна знаходзіцца ў былой Сынковіцкай участковай бальніцы, будынак якой быў узведзены яшчэ ў 1930-х гадах. Праўда, калі дом пераабсталявалі пад карчму, лічбы на ім перарабілі на 1831 год. Для чаго гэта было зроблена, можна толькі здагадвацца. Атрымалася, што дом пабудавалі яшчэ да вызваленчага паўстання Кастуся Каліноўскага 1863-1864 гадоў. Але гэта далёка не так. Будынак былой бальніцы з'явіўся каля лесу ў Сынковічах у 1930-я гады. Узводзіўся ён, як і іншыя, пры гаспадару пану Чапскім.

Чапскія ў 1939 годзе пакінулі Сынковічы. Пасля Другой сусветнай вайны ў гэтых будынках знаходзілася

*Працяг на ст. 10*



ХРОНІКА






# Юбілей раёна

17 студзеня ў цэнтры культуры і адпачынку адзначылі 80-годдзе Слонімскага раёна. На ўрачыстасці прысутнічалі цяперашнія і мінулыя мясцовыя кіраўнікі, вядомыя слонімцы. У выступах чыноўнікаў гучалі аптымістычныя прагнозы наконт будучыні Слонімшчыны. Арганізатары мерапрыемства наладзілі выставу з матэрыяламі пра гісторыю і сённяшні дзень нашага раёна.

*Фота: slonves.by*







# Каляндарыкі ад слонімскага тэатра

Слонімскі драматычны тэатр выдаў кішэнныя каляндарыкі да свайго 30-годдзя (як інфармуе slonimteatr.by, юбілейныя мерапрыемствы прызначаны на канец сакавіка). На адным з іх — партрэт Мікалая Варвашэвіча, заснавальніка тэатра, на іншым — афішы да дзіцячых спектакляў.

*Фота: slonimteatr.by*



КНІГІ ПРА СЛОНІМ

# Фоталетапіс слонімскай гісторыі

*Ліхадзедаў Ул. Слонім. Падарожжа ў часе. — Мінск, 2019. — 312 с.*

Гэтая кніга — найлепшая з падобных выданняў, прысвечаных Слоніму. Калекцыянер з Мінска Уладзімір Ліхадзедаў сабраў пад адной вокладкай амаль шэсць соцень (!) паштовак і фотаздымкаў, зробленых у канцы XIX стагоддзя — 1930-х гадах. Значная іх частка ўжо вядомая слонімцам (у тым ліку і дзякуючы "СК"), але ёсць асобнікі, якія дагэтуль бачыць не даводзілася.

Структурна кніга Ліхадзедава падзелена на шэсць раздзелаў. Першыя тры прысвечаны выключна Слоніму: канец XIX — пачатак XX стагоддзя; 1915-1918 гады; 1920-1930-я гады. Чацвёрты — Слонімскія ваколіцы. Яшчэ два раздзелы прысвечаны Альбярціну і Жыровічам. Ёсць таксама прадмова старшыні райвыканкама. Яна, як і ўся кніга, выканана на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай.

А цяпер пра цікавыя знаходкі. У кнізе "Слонім. Падарожжа ў часе" кожны можа знайсці для сябе нешта адметнае і важнае. Нам удалося высветліць, што на першых слонімскіх паштоўках ёсць, як мінімум, адзін здымак паэта, краязнаўцы і калекцыянера Гальяша Ляўковіча (псеўданім — Гальяш Леўчык, 1880 — 1944). У часы царскай Расіі паштоўкі выдавалі мясцовыя прадпрымальнікі — крама канцтавараў Бера Любоўскага на Студэнцкай вуліцы, галантарэйная крама Б. Чорнага, польская кнігарня. З нейкай прычыны ў гэты раздзел трапілі і некалькі паштовак, выпушчаных ужо падчас нямецкай акупацыі 1915-1918 гадоў.



Самыя каштоўныя з даваенных паштовак — з выявамі Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы, від на горад з боку касцёла св. Андрэя), Маскоўскай вуліцы (Скробаўскай, цяпер

*Працяг на ст. 4*

# Фоталетапіс слонімскай гісторыі


Працяг, пачатак на ст. 3

Маставая вуліца (Янкі Купалы)

— Чырвонаармейскай, від на цэнтр горада), Гандлёвай вуліцы (цяпер — Першамайскай), на якой бачым проста пад плотам касцёла шматлікія гандлёвыя будкі. А яшчэ ёсць паштоўка з чатырма здымкамі мастоў у нашым горадзе. У наступным раздзеле іх ужо можна пабачыць разбуранымі, прычым у самых розных ракурсах.

Сярод паштовак знаходзім невядомыя здымкі гарнізоннай царквы, могілак у горадзе і наваколлі, пахавання мясцовага жыхара ксяндзом. Ёсць падборка прыгожых краявідаў Слонімшчыны, здымкі з Міжэвічаў, Чамяроў, Шылавічаў. На некалькіх фота — нямецкая "выстава культурных каштоўнасцяў" у Слоніме ў снежні 1917 года і рэкламная паштоўка, прысвечаная ёй. Яна праводзілася ў нейкім драўляным будынку. На выставе было шмат партрэтаў нямецкіх салдат і афіцэраў, малюнкі гарадскіх вуліц і вёсак каля горада.

Кніга Уладзіміра Ліхадзедава зроблена прафесійна. У ёй амаль няма недахопаў ці памылак. Ёсць здымак (на ст. 107, ніжні), дачыненне якога да Слоніма даволі сумніўнае — у нашым горадзе проста не было такой вуліцы. Чаго не хапае? Цяперашніх назваў вуліц і плошчаў. А яшчэ вельмі дарэчы быў бы тэкст-каментар да калекцыі. У ім можна было б распавесці пра выдаўцоў паштовак, пра асаблівасці друку, пра тое, куды яны дасылаліся і што на іх пісалі.

Наклад кнігі складае 1000 асобнікаў. Па сённяшніх часах гэта вялікая лічба. А значыць нямала слонімцаў узбагацілі свае кнігазборы такім сапраўдным скарбам, які не сорамна пакінуць нашым нашчадкам.

●Сяргей Ёрш



*Маскоўская вуліца (Чырвонаармейская). Від на Гандлёвую плошчу (Тэатральную). Злева — сінагога*

# Гальяш Леўчык — фатограф










У калекцыі фотаздымкаў, якая намі збіралася больш за два дзясяткі гадоў, ёсць адзін здымак, які мае дачыненне да слонімскага паэта, краязнаўцы, перакладчыка Гальяша Леўчыка (Ляўковіча). Гэта паштоўка. Што мы на ёй бачым? Былую Апанасаўскую вуліцу ў Слоніме, цяпер — Пушкіна. Здымак зроблены з пажарнай каланчы. Адтуль Слонім здымалі некалькі мясцовых фатографаў. На гэтым жа фота напісана “Fot. amat. E. Lewkowicz” — “Фат[ограф] амат[ар] Э. Ляўковіч”. Вядома, што па-польску Гальяш Леўчык падпісваўся “E. Lewkowicz” ці “Eliasz Lewkowicz” (“Г. Ляўковіч” ці “Гальяш Ляўковіч”).[1] Прафесійным фатографам ён сапраўды не быў, але меў фотаапарат і любіў здымаць Слонім.[2]

Здымак быў зроблены яшчэ да Першай сусветнай вайны. У яго цэнтры бачым гістарычны будынак, пра які “СК” ужо пісаў.[3] У 1920-я ён быў зруйнаваны, а на яго месцы пабудаваны новы дом. У адрозненне ад іншых фатографаў, Гальяш Леўчык на фота захапіў не толькі Апанасаўскую вуліцу, але і Шырокую (цяпер — Гнідаша). Назвы напісаныя ад рукі па-руску.

Гэтае фота Гальяша Леўчыка можна пабачыць на двух розных паштоўках, выдадзеных у царскай Расіі і змешчаных у



*Пажарная каланча, з якой рабілася фота*

кнізе Уладзіміра Ліхадзедава “Слонім. Падарожжа ў часе”.[4] Надпісы на іх выкананы на рускай і польскай мовах. На адной з паштовак змешчаны

*Працяг на ст. 6*

# Гальяш Леўчык — фатограф



Гальяш Леўчык



Працяг, пачатак на ст. 5

адразу чатыры здымкі. У кнізе фота Апанасаўскай вуліцы крыху абрэзана справа, але на вокладцы паштоўка змешчана цалкам. Аўтар гэтых радкоў знайшоў яшчэ адну тагачасную паштоўку са згаданым фота, якой няма ў кнізе. Над ім той жа польскамоўны надпіс зверху: Слонім губ[ерня] Гродзенская.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны выйшла некалькі слонімскіх паштовак. На іх — вуліцы, храмы, канал, масты. Няўжо, як мінімум, частку здымкаў на іх зрабіў Гальяш Леўчык? Калі ўдасца знайсці пацверджанне гэтага, будзе цікавы і важны штрышок да біяграфіі вядомага слонімца.

●Сяргей Ёрш

*[1] Ёрш С. Пра імя паэта-нашаніўца // Літаратура і мастацтва, 2016, № 2, 15 студзеня. С. 14.*

*[2] Чыгрын С. Слонімскія фатографы пачатку XX стагоддзя // Слонімскі край, 2017, № 4. Красавік. С. 4.*

*[3] Ёрш С. Напалеон Банапарт і Слонім // Слонімскі край, 2019, № 6. Чэрвень. С. 5.*

*[4] Ліхадзедаў У. Слонім. Падарожжа ў часе. — Мінск, 2019. С. 13, 24.*




Паштоўка, на якой мы бачым той жа здымак

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Працяг, пачатак у №10-12, 2019 г.*

### Род Гнаінскіх

Род Гнаінскіх герба Варня вядомы ў Беларусі з XVI стагоддзя і ўнесены ў Радаслоўную кнігу дваран Гродзенскай губерні.

### Сямён Міткевіч-Гнаінскі

З выпіскі Наваградскага суда ад 4 ліпеня 1592 года вынікае, што пачынальнікам роду быў Сямён Міткевіч-Гнаінскі, які меў маёнтак Гнойна ў Слонімскім павеце ў ваколіцах Быценя: *"С заявленной в онных 4 июня 1592 года купчей крепости, по которой земянин Слонимского уезда Семён Миткевич-Гноинский продал имение своё с крестьянами Подкоморию Тризне за 500 коп Литовских грошей"*.[1]

### Мікалай Міткевіч-Гнаінскі

Сямён Міткевіч-Гнаінскі перад смерцю перадаў у спадчыну свайму сыну Мікалаю Міткевічу-Гнаінскаму фальварак Галынку у Слонімскім павеце. У Мікалая Сямёнавіча Міткевіча-Гнаінскага было трое дзяцей: сыны Якаў і Іван, дачка Паўліна.[2]

З выпіскі кніг Наваградскага суда: *"С заявленного от 10 февраля 1676 г. духовного завещания, по коему земянин Новогрудского воеводства Николай Миткевич-Гноинский, доставшийся ему от отца его Семёна фольварок Голынку с крестьянами, отказал сыновьям своим Ивану, Якову и дочери Павлине, а приобретённый им фольварок Тупалы с крестьянами жене своей Марине"*.[3]

### Мастаўнічы Якаў Мікалаевіч Міткевіч-Гнаінскі

Уладальнікам спадчыннага маёнтка Галынка ў пісьмовых дакументах Наваградскага суда згадваецца мастаўнічы Якаў Мікалаевіч Міткевіч-Гнаінскі, які меў сына Дамініка. Мастаўнічы — службовая асоба ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI-XVIII стагоддзях, які вёў нагляд за мастамі і пераправамі ў павеце.[4]

### Дамінік Гнаінскі

12 лютага 1765 года кароль польскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі дарue ахоўную грамату земяніну Наваградскага ваяводства Дамініку Гнаінскаму з малалетнім сынам


ПРАВИТЕЛЬСТВУЮЩІЙ СЕНАТЪ
ДЕПАРТАМЕНТЪ ГЕРОЛЬДІИ
АРХИВЪ

РОДОСЛОВНАЯ РОДА Гноинскихъ

Семенъ
Николай
Яковъ — Иванъ

# Вёска Вішава і ваколіцы

Францам, *"принимая под своё покровительство, представив ему шестимесячный срок для разобрания дела по отыскиванию благородным Иваном Волецким претензий на имение отца его Новогрудского Мостовничего Якова Гноинского, именуемым Голынкою".*[5]

### Судовы рэгент Франц Гнаінскі

Франц Гнаінскі быў ахрышчаны 20 сакавіка 1758 года ў Здзецельскім (Дзятлаўскім) прыходскім касцёле. У 29-гадовым узросце Франц Дамінікавіч Гнаінскі атрымаў 6 чэрвеня 1787-га патэнт на пасаду актавага рэгента Наваградскага земскага суда. Рэгент займаўся складаннем дакументаў у судах і адказваў за іх захаванне. У Франца Гнаінскага былі тры сыны, якія згадваюцца ў кнігах Наваградскага земскага суда: *"духовное завещание от 16 марта 1803 г., по которому бывший актовый регент Франц Даминикович Гноинский отказал сыновьям своим Ксаверию, Петру и Константину денежныя суммы, находящиеся на процентах у разных лиц, также и оставшиеся от продажи в 1784 г. дворянину Вольскому отцовского фольварка Голынка".*[6]

У метрычных кнігах аб нараджэнні і хрышчэнні Наваградскага прыходскага касцёла, заверанымі кіраўніком Віленскай рымска-каталіцкай епархіі ад 9 чэрвеня 1827 года, значацца сыны Франца Дамінікавіча Гнаінскага: Ксаверый быў ахрышчаны 7 лютага 1796-га, Пётр — 7 траўня 1799-га і Канстанцін — 15 студзеня 1801 года. У радаслоўнай кнізе дваран Гродзенскай губерні запісана наступнае: *"Ксаверий, Пётр и Константин Доминиковичи Гноинские определением Герольдии 13 июня 1836 г. утверждены в дворянское достоинство с внесением в IV часть Родословной книги, о чём Гродненскому Дворянскому Депутатскому Собранию дано знать от 25 сентября 1836 г.".*[7]


DISSERTATIO
INAUGURALIS OBSTETRICIO-PRACTICA
DE
ASPHYXIA NEONATORUM
QUAM
IN CAESAREA LITTERARUM
UNIVERSITATE VILNENSI
AD
CONSEQUENDA DOCTORIS MEDICINAE
JURA ET HONORES
PUBLICE DEFENDET
PETRUS GNOIŃSKI
LITHVANUS
MEDICINAE MAGISTER
ANNO MDCCCXXIII, DIE XXX. JUNII
VILNAE
TYPIS DIOECESANIS AD ECCLESIAM S. CASIMIRI

### Доктар медыцыны Пётр Гнаінскі

Пётр Францавіч Гнаінскі вучыўся ў Віленскім універсітэце на медыцынскім факультэце і за выдатную вучобу атрымаў прэмію і ступень кандыдата філасофіі Віленскага ўніверсітэта, а 30 траўня 1823 г. адбылася абарона яго дысертацыі на ступень доктара медыцыны па тэме "Медыцынская практыка асфіксіі ў нованароджаных", якую ён бліскуча абараніў: *"Диплом данный из Виленского университета 27 июля 1823 г.*

*кандидату философии и магистру медицины, дворянину Петру Францеву Гноинскому в том, что поучинённому ему публичного испытания в науках в оных строгий экзамен выдержал и торжественно удостоен звания Доктора Медицины".*[8]

У альбоме фотаздымкаў Уладзіслава Міцкевіча, сына знакамітага Адама Міцкевіча, пад нумарам 19 знаходзілася шэсць фотаздымкаў філарэтаў, сярод якіх ёсць подпіс: "Пётр Гнаінскі-Міткевіч".[9] Магчыма, што Пётр Гнаінскі падчас вучобы ў Віленскім універсітэце быў сябрам таварыства філарэтаў. Ці былі Гнаінскія ў сваяцкай сувязі з сям'ёй Адама Міцкевіча, сёння цяжка адказаць. Але тое, што ў прадстаўнікоў рода было двайное прозвішча, дае нам падставу для меркавання, якое трэба пацвердзіць генеалагічнымі фактамі.

Пётр Гнаінскі ажаніўся з Ганнай Юрэвіч. Ён меў трох сыноў — Ксаверыя Францішка-Дамініка (хрышчаны 10.12.1839-га), Пія-Уладзіслава-Эразма (хр. 21.05.1848 года) і Вінцэнта-Пятра-Якуба (хр. 01.08.1853-га, усе трое — у Наваградскім касцёле).[10]

У 1832 годзе Пётр Францавіч Гнаінскі меў у застаўным валоданні маёнтак Дабраполь Наваградскага павета, у 1852-м валодаў маёнткам Волцы Наваградскага павета са 120 прыгоннымі. Ва ўладанні Пятра Гнаінскага ў 1859 годзе меўся маёнтак Дворжэц Наваградскага павета Мінскай губерні. З 1832-га ён служыў доктарам у Наваградскім павеце. За стараннасць на службе павятовы лекар, доктар медыцыны, надворны дарадца Пётр Францавіч Гнаінскі шмат разоў адзначаўся ўказамі сената, яго вельмі любілі і паважалі землякі.[11]

Гнаінскі быў унагароджаны бронзавым медалём *"В память Крымской войны 1853-1856 гг."*. Ім узнагароджваліся пераважна вайскоўцы, медыкі або непасрэдныя ўдзельнікі ваенных падзей, а таксама ганаровыя грамадзяне, якія займаліся дабрачыннасцю, дапамагалі параненым. Пётр Гнаінскі актыўна ўдзельнічаў у правядзенні супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў на тэрыторыі Наваградскага павета і карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод мясцовых жыхароў. Юзаф Кашыц, былы маршалак Наваградскага павета, уладальнік маёнтка Ятра, канфіскаванага за удзел у паўстанні 1830-1831 гадоў, у 1863-м так выказаў сваю апошнюю волю: *"Двое маіх сыноў Канстанцін і Юльян Кашыцы з'яўляюцца прамымі спадчыннікамі маёй маёмасці, пакінутай пасля маёй смерці. Я не сумняваюся, што яны не абвінавацяць мяне, як і мая жонка, што я хачу пасадзейнічаць, наколькі мне дазваляюць мае сродкі, карысным установам, заснаваным нашай эміграцыяй, і аказаць дапамогу хаця б некалькім маім суайчыннікам і асобам, якія мяне найбольш цікавяць: ...У распараджэнне Пятра Гнаінскага, які жыве ў Наваградку, для размеркавання, як ён палічыць неабходным, паміж хворымі, пра якіх клапоціцца, незалежна ад іх рэлігійнага веравызнання, сто сорак рублёў срэбрам, альбо шэсцьсот франкаў".*[12]

У гродзенскім архіве захаваўся дакумент *"О предоставлении очередного отпуска Новоградскому уездному врачу Петру Гноинскому"*. У 1839 годзе доктар медыцыны Пётр Гнаінскі напісаў рапарт, што *"по слабости здоровья имеет необходимую надобность отправиться на излечение в Саксонское царство до г. Дрездена и просит ходатайства Управы об увольнении его от должности в отпуск на 4 месяца, а именно с 1 мая по 1 сентября сего 1839 г., и о снабжении в поездку с ним крестьянина Ивана Фёдорова Мартинчика четырёхмесячным паспортом"*. У сувязі з ад'ездам за мяжу захавалася ў пашпарце апісанне прыкмет Наваградскага павятовага доктара медыцыны надворнага дарадцы Пятра Гнаінскага: *"лет — 40, рост — 2 аршина и 6 вершков, волосы — чёрные с сединами, глаза — голубые, нос — продолговатый, подбородок — обыкновенный, лицо продолговатое, особых примет не имеет"*.[13]

За дачыненне яго жонкі да паўстання 1863-1864 гадоў Пётр Гнаінскі быў западозраны у "палітычнай нядобранадзейнасці", у 1864-м яго звольнілі са службы.[14]

●Святлана Брайчук

Працяг у наступным нумары

*[1] Нацыянальны дзяржаўны архіў Беларусі ў г. Гродна, ф. 332, воп. 2, спр. 2.*

*[2-8] Тамсама.*

*[9] Гарбачова В. Беларускі падарунак Уладзіславу Міцкевічу // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. — Мінск, 2010. С. 378-379.*

*[10] Матвейчык Д. Удзельнікі паўстання 1863-1864 гадоў: біяграфічны слоўнік. — Мінск: Беларусь, 2016. С. 168.*

*[11] Эльяшевич Е. Краткая история медицины Беларуси: лекции. — Минск: БГМУ, 2011.*

*[12] Матвейчык Д. Юзаф Кашыц і яго тастамент ад 29 траўня 1863 г. // Архіварыус. Вып. 12. — Мінск: НДАБ, 2014. С. 168.*

*[13] НДАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 3, спр. 1364.*

*[14] Удзельнікі паўстання 1863-1864 гадоў…*

# Лёс Лесьнічоўкі Уладзіміра Сасноўскага





Уладзімір Сасноўскі, 1960-я гады

*Працяг, пачатак на ст. 1*

Сынковіцкая бальніца. А ў дамах каля яе жылі тыя, хто там працаваў, лячыў людзей, займаўся гаспадарчымі справамі. Жыхары суседніх вёсак Сынковічы, Елка, Казловічы, Шулякі, Чамяры, Хадзявічы гэта месца называлі проста — Лесьнічоўка. І кіроўцы, якія ехалі па шашы, спыняліся каля помніка аленю на вялікім п’едэсталe. Гэта быў своеасаблівы прыпынак для мясцовага люду. Яны так і казалі: *“Спыніце мне, калі ласка, аўтобус ці машыну каля аленя”*. І кіроўцы спынялі. Прайшлі дзесяцігоддзі, помніка лясному жыхару таксама ўжо даўно няма. Знік і драўляны двухпавярхоўны галоўны корпус бальніцы.



Сасноўскі каля альтанкі Чапскага, 1960-я гады

Слова пра Уладзіміра Сасноўскага

У сакавіку 1945 года прыехаў на Зэльвеншчыну медработнік Уладзімір Сасноўскі. Ён якраз дэмабілізаваўся з фронту. Спачатку працаваў у вёсцы Холстава Зэльвенскага раёна, а потым фельчара Сасноўскага накіравалі ў Сынковіцкую бальніцу, якая тады адносілася да Слонімскага раёна.

Уладзімір Сасноўскі быў ураджэнцам вёскі Каменка Дзяржынскага раёна. З маленства любіў музыку, іграў, як успамінае яго дачка Лілія Сасноўская, на ўсіх музычных інструментах. Таму вырашыў юнак свой лёс звязаць з музыкай і паехаў у Ленінград вучыцца, дзе яго і заспела вайна. Сасноўскі працаваў на Кіраўскім заводзе, адліваў карпусы гранат і мін.

*Калектыў Сынковіцкай бальніцы, 1954 г.*

Потым прымаў удзел у абароне горада на Няве. А ў 1942 годзе Уладзіміра Сасноўскага накіравалі на вучобу ва Уладзімірскае пяхотнае вучылішча. Дарэчы, каб узялі на фронт, ён напісаў сябе ва ўсіх дакументах на два гады старэйшым. Пасля вучылішча ўдзельнічаў у баях за вызваленне Украіны і Польшчы ў складзе 2-га Украінскага фронту, а затым — 2-га Беларускага фронту. Разведчык-кулямётчык Сасноўскі быў двойчы паранены, цяжкае раненне атрымаў пры вызваленні Польшчы. *“Медаль “За адвагу” бацьку знайшла праз 25 гадоў пасля вайны”*, — прыгадвае дачка Сасноўскага Лілія Уладзіміраўна.



*Дактары Сасноўскі і Нечыпарэнка*

У 1964 годзе Уладзімір Сасноўскі скончыў Гродзенскі медыцынскі інстытут. Дыплом яму выдалі пад нумарам 4. Падчас вучобы ўсе гады студэнт Сасноўскі ў інстытуце быў старастам курса, яго любілі і паважалі аднакурснікі, выкладчыкі. Пасля медінстытута Сасноўскага накіравалі ў Альшаны, але яму спадабаліся Сынковічы, і ён марыў вярнуцца ў сваю Лесьнічоўку. І ў 1966 годзе

*Працяг на ст. 12*

# Лёс Леснічоўкі Уладзіміра Сасноўскага

*Працяг, пачатак на ст.1,10-11*

мара доктара спаўняецца — ён вяртаецца на Зэльвеншчыну назаўсёды.

### Сяброўства з доктарам Нечыпарэнкам

У Леснічоўцы сёння жывуць дзеці Уладзіміра Сасноўскага — Лілія і Генадзь. Па словах Ліліі Уладзіміраўны, яе бацька і маці Марыя пазнаёміліся ў Леснічоўцы. *"Мама таксама скончыла Гродзенскі медінстытут, яна была на пару гадоў старэйшая за бацьку. Пасля інстытута яе накіравалі ў Сынковічы ў бальніцу, тут яны пазнаёміліся і пажаніліся"*, — распавядае Лілія Сасноўская.

Пасля вайны ў Леснічоўцы жыло шмат людзей. Сасноўскі нават паклікаў сваіх сваякоў бліжэй да сябе ў той няпросты пасляваенны час, якія потым раз'ехаліся ў розныя куткі Беларусі. Спачатку бальніца ў Сынковічах была ўчастковай, потым тут лячылі людзей ад сухотаў, пасля яна стала геранталагічнай, уралагічнай, нарэшце была проста амбулаторыяй. Назвы мяняліся, але доктар Уладзімір Сасноўскі, які ўзначальваў гэтую бальніцу, лячыў мясцовы люд ад усіх хваробаў. І людзі пра доктара ведалі не толькі ў суседніх вёсках і хутарах, але і ва ўсім Слонімскім, Зэльвенскім і Ваўкавыскім раёнах. Прыязжалі да яго здалёк на розныя кансультацыі і вядома ж падлячыцца. І доктар лячыў, бо меў добрую медыцынскую адукацыю і вопыт.

Шчыра сябраваў Уладзімір Сасноўскі з вядомым гродзенскім уролагам-анколагам, вучоным, педагогам Аляксандрам Нечыпарэнкам (1916 — 1980). Тым самым доктарам, які з'яўляецца аўтарам даследавання элементаў крыві ў асадку мачы (аналіз мачы па Нечыпарэнку). Аляксандр Захаравіч шмат разоў прыязджаў да Уладзіміра Сасноўскага ў Леснічоўку. Яны доўга гутарылі пра розныя медыцынскія справы, разам вырашалі пытанні ўралогіі, дзяліліся медыцынскім вопытам. Адзін з іх быў добры практык, другі — тэарэтык і педагог, які загадваў курсам уралогіі Гродзенскага медінстытута.

У сям'і Сасноўскіх захавалася некалькі здымкаў, сярод іх ёсць і сфатаграфаваныя візіты Аляксандра Нечыпарэнкі з Гродна ў Леснічоўку. На адным са здымкаў зафіксаваны той




*Каля Сынковіцкай бальніцы, 1960-я гады*



*Медыцынская машына Сынковіцкай бальніцы, 1960-я гады*

момант, калі Сасноўскі праважае Нечыпарэнку каля помніка з аленем.

ФЭД-2 і альтанка

*"Я вельмі люблю сваю Леснічоўку,* — шчыра распавядае Лілія Сасноўская. — *Цяпер часта думаю, вось чаму спадабалася маім бацьку і маці гэта месца. Якія тут прыгожыя раніцы і вечары! Бывала выйду на ганачак, сяду і гляджу на лес, успамінаю маленства і бацькоў, а таксама тых людзей, якія тут жылі і працавалі. І на душы становіцца светла і радасна".*

Уладзімір Сасноўскі любіў сваіх землякоў, у любы час сутак іх прымаў у бальніцы, уважліва слухаў скаргі на хваробы і лячыў, лячыў, лячыў. А ў вольны час шмат чытаў кніг па медыцыне, выпісваў газеты і часопісы, любіў фатаграфаваць. *"У бацькі быў фотаапарат ФЭД-2, ён яго заўсёды браў з сабой, фатаграфаваў Леснічоўку, людзей, прыроду…",* — успамінае Лілія Сасноўская.

Памёр даўно ветэран вайны і доктар Уладзімір Сасноўскі. Няма ўжо ў зэльвенскай Леснічоўцы бальніцы, пра якую нагадвае толькі некалькі старых даваенных будынкаў. Згніла і старая альтанка Чапскіх, дзе гулялі дзеці мясцовых медыцынскіх работнікаў. Але старэйшы люд па сённяшні час памятае Леснічоўку Уладзіміра Сасноўскага. Пра што не ведаюць тыя пасажыры, якія побач праязджаюць, спашаючыся на захад і ўсход на сваіх аўто.

Калі матэрыял пісаўся, дачка Уладзіміра Сасноўскага прыслала свой верш пра Леснічоўку. Ён заслугоўвае ўвагі, каб быць надрукаваным.

●Сяргей Чыгрын

*Фотаздымкі друкуюцца ўпершыню*

Бальніца ў Леснічоўцы

*Вас запомнілі ў белых халатах,*
*Дарагія мае земляки*
*З чамяроўскіх, шуляцкіх,*
*Сынковіцкіх, ёлкаўскіх хатаў,*
*І якія вы добрыя людзі былі!*
*Працавалі вы ўсе ў бальніцы,*
*Што стаяла амаль пры шашы*
*Пажыццёва былі вы руплі́ўцы,*
*Вашы постаці, твары і справы*
*Жывуць у людзей у душы.*
*У Леснічоўку ішлі, захварэўшы —*
*Боль і сум адступалі заўжды:*
*Лашчыў лес зрок, гаіліся целы і сэрцы*
*З Божай ласкі, з людской дабраты.*
*Вы навуку лячыць спасцігалі у Гродне,*
*Вам не цяжкай цяжкая вучоба была,*
*Час мінуў, і ці многія помняць*
*Тых студэнтаў ў ваенных яшчэ шынялях?*
*Як хапіла вам сэрца і сілы*
*Здзейсніць тое, што здзейсніць змаглі?*
*Дарагі Леснічоўскі куточак і мілы*
*Вельмі многім на нашай зямлі...*
*Ціха стала на вашых сцяжынках,*
*Між дубоў іх амаль не відно,*
*Ўсе праехалі сані, вазы і машыны*
*І адстукалі стукі ў вакно.*
*Усё прайшло, адгуло, і пажарам*
*Знішчан нават бальнічны будынак…*
*І замёў час няўмольны і жыцці, і мары,*
*і пакінуў адны успаміны.*

Лілія Сасноўская

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

*Заканчэнне, пачатак у №8-12, 2019 г.*



*Пячатка ЗД. Са старонкі Андрэя Чарнякевіча ў Facebook*

### Судовыя справы

У паўгалодным Мінску быў велізарны попыт на розная кшталту відовішчы. Недахоп хлеба ўлады кампенсавалі вялізнай колькасцю палітычных шоў. Маштабаў 1937-га яшчэ не дасягнулі, але “кіно” пра шпіёнаў мінскія абывацелі маглі глядзець штотыдзень. 25-га чэрвеня 1925 года газета *“Звезда”* ў раздзеле *“Сегодня в театре”* і *“Зрелища”* сярод аб’яў пра запланаваныя пастаноўкі “Месаліны” і “Балаганчыка” дала анонс *“Суд. Дело польского шпиона Грача”*. Публіка, якая прагла вострых эмоцый, а 6-й гадзіне вечара наступнага дня спяшалася запоўніць залу гарадскога Дома культуры. Ролю суддзі на гэтым спектаклі выконваў вельмі спрактыкаваны ў “выкрыцці бандытаў” таварыш Пастрэйтар, дзяржаўны абвінаваўца — Канаплін, грамадскі — Панскі. Абаронцам быў прызначаны адвакат Крэйнес (ніхто, безумоўна, не хацеў па добрай волі выконваць гэтую функцыю).

СМІ адзначылі, што падсудны “з інтэлегентным тварам, хітрымі вачыма, жвавы”, распавядаў пра сябе і сваю арганізацыю даволі ахвотна, нават з азартам, як круціў стужку кіно перад цікаўнымі гледачамі, задаволенымі яго прыніжэннем. Яму не паверылі, калі ён гаварыў пра сваю адданасць Бацькаўшчыне. *“Ніякі ён не беларус, гаворыць з польскім акцэнтам”*, — вынеслі вердыкт прысутныя.[1] Яго разважанні пра нацыянальныя прыярытэты былі мала зразумелыя для новых савецкіх беларусаў.

Паўтарагадзінная прамова грамадскага абвінаваўцы Панскага скончылася высноваю, што *”мы ў сучасны момант наўрад ці можам дазволіць сабе раскошу аднесціся паблажліва да Грача, калі ўжо новыя Грачы ліхаманкава рыхтуюцца да новых злачынстваў”.* Позна ноччу суддзя зачытаў прысуд: да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Ксяневіч-Грач *“прызнаваўся віноўным у арганізацыі ў контррэвалюцыйных мэтах узброеных паўстанняў для адарвання часткі Савецкай Беларусі, у арганізацыі і ўдзеле ў шпіянажы”*.[2] 2 ліпеня *“Звезда”* паведаміла аб адтэрміноўцы прысуду Грачу, асуджанаму па 1-й частцы 56-га і 1-й частцы 66-га артыкулаў Крымінальнага кодексу. Ксяневіч паўтарыў хадайніцтва да Цэнтральнага выканаўчага камітэта аб памілаванні. Просьба была напісана на імя А. Чарвякова. Грач шкадаваў, што стаў ахвярай авантуры.

*“Я хацеў бы свае веды, энэргію і працу прысвяціць беларускаму народу і хоць крыху загладзіць сваю віну перад ім... мой прыход быў без злога намеру...*, — пісаў асуджаны ўжо раніцай 28-га. — *Не такі я вялікі злачынца і не правакатар”.* Наколькі шчыры быў Уладзімір Францавіч у сваіх пакутах? Хутчэй за ўсё, страх перад смерцю кіраваў паводзінамі маладога мужчыны. Намеснік старшыні ЦВК Хацкевіч прыпыніў выкананне прысуду Вярхоўнага Суда. Выпіска з пратакола № 5 ад 3 лютага 1927 года пасяджэння прэзідыума ЦВК БССР сведчыць пра тое, што хадайніцтва Грача аб памілаванні было задаволена. Цікава, што рашэнне прымалася больш за паўтары гады. Вясной Ксяневіч пакінуў мінскую турму. Было гэта вызваленнем, ці падменай адной формы несвабоды на іншую — пытанне рытарычнае. Пазней следчым Балея Грач прызнаўся, што жыццё, можна сказаць, падараваў яму І. Апанскі. Менавіта ён хадайнічаў перад уладамі аб памілаванні. Па ўсім вынікае, што намеснік старшыні ДПУ, адзін з

асноўных трэстаўскіх гульцоў у Беларусі, спачатку прыклаў шмат намаганняў, каб выманіць Грача на савецкі бок. Іх супрацоўніцтва не мела працягу. У чэрвені 1927 года Апанскі загінуў пры нявысветленых абставінах.[3]

Спрабуючы яшчэ раз у 1939 годзе пазбегнуць смерці, Ксяневіч праінфармаваў сібірскіх следчых аб сваіх паслугах беларускаму ДПУ і НКУС Благавешчанска. Нават прасіў падчас следства выклікаць супрацоўнікаў з гэтага горада, якія б пацвердзілі, што ён *"састаяў на працы ў разведорганах і сваё мінулае намагаўся загладзіць".* Паведаміў Грач і пра тое, што яму прапаноўвалі "працу" рэзідэнта за мяжой. Выклікаць сведкаў не сталі: ці то іх ужо паспелі знішчыць, ці то энкэвэдзістам былі не цікавыя мінулыя заслугі падследнага. У даступных матэрыялах 1920-х гадоў амаль няма згадак пра "дапамогу" Грача чэкістам, хаця ў Балеі ён сцвярджаў, што перадаваў беларускім савецкім спецслужбам інфармацыю аб запланаваных налётах і адказных за акцыі персонах.

Папулярнымі сюжэтамі ў тагачасных савецкіх СМІ былі павучальныя гісторыі пра выкрыццё і раскаянне "бандытаў" і шпіёнаў. Як мінімум у двух фігураваў былы кіраўнік штаба "ЗД". Напрыканцы лютага 1925 года газеты шмат ўвагі і плошчы аддалі судовай справе над удзельнікамі ўзброенага нападу на мястэчка Койданава. Гэта тэрорная акцыя супала ў часе з першай спробай Грача перайсці мяжу 2 кастрычніка. Менавіта з-за перастрэлкі на заставе ён вымушаны быў адкласці пераход на тыдзень.

Беларусь у тыя гады ператварылася ў палігон для высвятлення адносін паміж Рыжскімі дагаворшчыкамі. У Расіі жорстка і безаглядна ўсталёўваўся новы палітычны рэжым. Высілкі савецкай улады па знішчэнні палітычнай апазіцыі ўнутры краіны разам з патрабаваннямі да Польшчы раззбраення "незаконных вайсковых фарміраванняў" на падставе Рыжскай дамовы прывялі фактычна да адкрыцця новага фронту. У гэтую "малую вайну", большая частка якой разгарнулася на тэрыторыі Беларусі, было ўцягнута безліч людзей, згуртаваных у арганізацыі і паасобку.

27 лютага 1925 года ўлады арганізавалі буйнамаштабны паказальны працэс па выкрыцці правакацыйнай ролі 2-га аддзела Польскага генштаба. Жыхароў Рубяжэвіч Івана Гайдука і Яна Тарноўскага абвінавачвалі ў тым, што яны ў складзе ўзброенай групы, арганізаванай палякамі і пад кіраўніцтвам польскага паручніка ў ноч на 2-е кастрычніка 1924 года ў раёне хутара Сулы ўварваліся на тэрыторыю Беларусі. З прамовы дзяржаўнага абвінаваўцы вынікала, што тэрорная акцыя мела на мэце напад на Койданава, знішчэнне 13-га савецкага памежатрада, захоп дакументаў і вызваленне арыштаваных. Для надання працэсу належнай помпы і палітычнага гучання з Масквы прыехаў пракурор Вышэйшага Суда РСФСР таварыш Вышынскі. Яго зорка знішчальніка апанентаў толькі-толькі пачынала ўзыходзіць. Мясцовыя служыцелі Феміды паклапаціліся пра як мага больш шырокае асвятленне працэсу ў прэсе. У зале Вышэйшага Суду не ўмясціліся ўсе жадаючыя. У Крамлі сур'ёзна разлічвалі на міжнародны розгалас. Судзіў маладых хлопцаў, якім не пашчасціла пазбегнуць арышту і ўцячы за мяжу, Пастрэйтар. Грач упершыню удзельнічаў у савецкім працэсе дасягнення ісціны, ён выступаў у якасці сведкі.

Аддзел колькасцю 13 чалавек ішоў як на бой, трымаючы ў руках зброю і гранаты, — сурова паведаміў суду абвінаваўца. Каля маёнтку Старынкі атрад быў затрыманы савецкім памежным пастом. Гадзіну доўжылася перастрэлка. У выніку Гайдук і Тарноўскі былі арыштаваны, астатнія разбегліся. Усіх, чырвонаармейцаў і баевікоў, уразіла гібель кіраўніка тэрорнай групы Яна Камінскага. Паранены ў нагу, паручнік паклаў сабе ў рот нейкія дакументы і паспрабаваў іх праглынуць, а потым стрэлам з парабелума ў скронь падвёў рысу жыцця. Нават Вышынскі адзначыў высакародны ўчынак польскага афіцэра, адданасць яго прысязе і службоваму абавязку.

*"...Рашучы чалавек з пачуццём гонару",* — не пашкадаваў ён добрых слоў у адрас ворага. Паперкі з рота дасталі і прадэманстравалі іх прысутным. Аб змесце такіх дарагіх дакументальных сведчанняў публіку не праінфармавалі. Высокі маскоўскі госць паведаміў, што Ян Камінскі ў 1922 годзе (у той момант Грыльберг) ужо меў прысуд да расстрэлу ў савецкай Беларусі за шпіянаж, але потым у выніку палітычнага гандлю і абмену быў высланы ў Польшчу. Вышынскі быў задаволены, цытуючы паказанні Камінскага з крымінальнай справы. Паручнік даваў пакаянныя прызнанні і не шкадаваў чорнай фарбы для характарыстыкі дзейнасці "двуйкі". Абвінаваўца спаслаўся і на паказанні Ксяневіча-Грача. Апошні ў патрэбны момант



**Skazanie na śmierć pułkownika powstańców białoruskich**

W najwyższym sądzie Białorusi sowieckiej w Mińsku odbył się proces płk. Ksieniewicza, który pod pseudonimem Gracza był jednym z wybitnych przywódców białoruskiej powstańczej organizacji „Zielonego dębu", organizującej ruch powstańczy na Białorusi

*Зацемка з польскай газеты пра прысуд Грачу, 1925 г.*

*Працяг на ст. 16*

# У засені "Зялёнага дуба". Атаман Грач

*Працяг, пачатак на ст. 14-15*

распавёў у судзе пра сумесную аператыўную працу з Камінскім падчас знаходжання штаба "ЗД" у Маладзечне ў 1921 годзе, калі арганізацыя рыхтавалася да агульнага ўзброенага паўстання ў Беларусі. Грач знаў Яна пад прозвішчам Прухняк.[4]

Публіка нервова рэагавала на "ўспаміны" зялёнадубца пра напад на цягнік Баранавічы — Мінск, у якім ехала бальшавіцкая дэлегацыя. Польскай выведцы спатрэбіліся сапраўдныя дакументы. *"Дарогі бандытызму прыводзяць да 2-га аддзела ПГШ",* — падсумаваў пракурор пасля пераліку фактаў злачыннай дзейнасці "двуйкі". Спасылаючыся на паказанні Савінкава і Грача, Вышынскі з натхненнем дэманстраваў доказы ўдзелу польскай выведкі ў падрыхтоўцы нападу на Койданава. Нарэшцэ абагульніў: *"Койданаўская справа закранула інтарэсы усяго СССР".* Тут прысутныя зразумелі, што судовая пастаноўка мае на мэце абвінаваціць польскі бок у парушэннях Рыжскага пагаднення. Факты ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы краіны Саветаў збіраліся для прад'яўлення ў міжнародныя арганізацыі.

*"Койданаўская іскра не запаліла вялікі пажар,* — радаваўся дзяржаўны абвінаваўца. — *Ніякіх наступстваў для беларускіх сялян".* А калі б савецкі атрад даў сябе ўцягнуць на польскую тэрыторыю? — імправізаваў Вышынскі. *"О!"* — зала ўздрыгнула ад тэатральнага воклічу пракурора. А той працягваў: *"Згарэлі б добрасуседскія адносіны, якія рашуча, упарта, настойліва будуем мы і ў некатарым сэнсе польскі ўрад".* Віна за кепскія адносіны паміж дзяржавамі-суседкамі была ўскладзена на Польскі генштаб. *"Афіцыйныя улады тут ні пры чым, страляў сам ПГШ",* — падкрэсліваў



*Уладзімір Ксяневіч*

ён дуалізм палітыкі польскіх кіраўнікоў у адносінах да СССР.[5] Паказанні Грача спатрэбіліся для падмацавання гэтай палітычнай версіі Крамля.

Пастановачныя працэсы ў Мінску працягваліся. Суды праходзілі па знаёмым сцэнары, з тым жа складам выканаўцаў. У газетах нават з'явілася рубрыка "Наёмнікі пана Карчэўскага" (гэта быў польскі консул). Улады настойліва распальвалі шпіёнскія жарсці вакол польскай дыпламатычнай службы. Амаль на кожным працэсе згадвалася імя Уладзіміра Ксяневіча ў звязку з правакацыйнай злавеснай роляй польскіх спецслужб.

У пошуках ціхага месца, як мага далей ад "польскіх шпіенаў" і іх лоўчых, Грач апынуўся на Далёкім Усходзе. Як ён сам тлумачыў, "вядомасць" яго ў Беларусі перашкаджала наладзіць нармальнае жыццё. Часам сустракаўся з былымі паплечнікамі. У Мінску ў 1927 годзе сутыкнуўся з зялёнадубцам Антоніем Касінскім, які на той момант уладкаваўся на працу ў замежны аддзел дзяржаўнай бібліятэкі. У Мазыры заўважыў былога шафёра генерала Булак-Балаховіча. Ці то настальгія не дала спакою былому атаману, ці то прадчуванне блізкага канца, але ў 1937 годзе ён з Чыцінскай вобласці на кароткі час вярнуўся ў Мінск і завітаў у Слуцк. *"Збіраўся знайсці былых удзельнікаў Слуцкай брыгады, інтэрнаванай палякамі, арганізаваць паўстанцкі аддзел",* — запісаў следчы тлумачэнні Грача. Ад сваіх гераічных намераў на судзе падследны адмовіўся, спалаўшыся на жорсткае абыходжанне падчас следства, здзекі і рэгулярнае збіццё.

Ксяневіч быў арыштаваны ў студзені 1938 года "за шпіянаж". Першыя допыты пачаліся ў чэрвені таго года. Відаць, балейскія службы чакалі матэрыялы з Беларусі. Галоўным момантам абвінавачання па-ранейшаму засталася яго зялёнадубская частка жыцця. 16 красавіка 1939 года ваенным трыбуналам Забайкальскай ваеннай акругі Ксяневічу Уладзіміру Францавічу быў вынесены смяротны прысуд з канфіскацыяй маёмасці. Касацыйныя скаргі не далі станоўчага выніку. Адмоўны адказ на просьбу аб памілаванні прыйшоў з прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 1 ліпеня 1939-га, а 4 ліпеня прысуд быў выкананы. У чыцінскіх курапатах, месцах масавых пахаванняў рэпрэсаваных , застаўся атаман Грач. Яго рэабілітавалі 29 жніўня 1991 года.

Атаман Грач — герой з гістарычнай цені. Такія, як ён, выйшлі на паверхню з небыцця, калі грамадства прышло да высновы, што перамога, якая дзясяткі гадоў не падлягала сумненням, зусім не бясспрэчная. Сістэма дала збой, і маладыя парасткі нацыяналізму засведчылі марнасць усіх папярэдніх намаганняў імперцаў. Грач — не міт. Яго жыццяпіс склаўся не парадны. Ён быў з заўтрашняга дня, які для іх не наступіў. Праект пабудовы нацыянальнага дому быў адкладзены.

●Ніна Стужынская

*[1] Звезда, 1925, 27 чэрвеня.*
*[2] Звезда, 1925, 29 чэрвеня.*
*[3] Токарев М. Как погиб один из организаторов операции "Трест" (о судьбе заместителя председателя ГПУ И. К. Опанского. 1897 — 1927) // Советская Белоруссия, 1997, 26 чэрвеня.*
*[4] Звезда, 1925, 28 лютага.*
*[5] Тамсама.*

КНІГАРНЯ

# Трыццаць гадоў нашага жыцця

*Бедка І. Дэмакратычны рух на Слонімшчыне: 1989 — 2019 гг. Агляд-хроніка. — Мінск, 2019. — 164 с.*

Вядомы слонімскі грамадска-палітычны дзеяч Іван Бедка да свайго 70-годдзя выдаў кнігу, якая ахоплівае жыццё Слонімшчыны ў апошнія гады існавання СССР і ў часы незалежнай Беларусі. Гэта своеасаблівая "хроніка падзей", якая складалася аўтарам паводле сваіх занатовак, захаваных дакументаў, газетных публікацый, фотаздымкаў. Ён не ставіў задачу адлюстраваць сацыяльна-эканамічнае ці культурнае жыццё (хаця і гэтыя аспекты ў кнізе закранаюцца), гаворка ідзе ў асноўным пра палітыку і ўсё, што з ёй звязана, а таксама пра грамадскую актыўнасць.

З канца 1980-х гадоў у Слоніме існуе моцны актыў дэмакратычнага руху. Спачатку было змаганне за незалежнасць Беларусі, а пасля — за свабоду і дэмакратыю ва ўжо незалежнай краіне. Дзясяткі гадоў актывісты ўдзельнічаюць у палітычных кампаніях, праводзяць вулічныя акцыі ці бяруць удзел у мітынгах і дэманстрацыях у Мінску, займаюцца інфармаваннем землякоў пра сапраўдны стан рэчаў у краіне, ушаноўваюць памяць вядомых і заслужаных слонімцаў, трапляюць пад рэпрэсіі. Усё гэта зафіксаваў Бедка.

Усе падзеі разбітыя па гадах. Відавочна, што апошнія з іх добра напоўнены інфармацыяй, чаго не скажаш пра тыя ж 1990-я. Атрымліваецца, што падзеі ў некаторыя гады адлюстраваны вельмі схематычна. Можна




дапусціць, што і нейкія важныя факты маглі застацца "за кадрам".

Безумоўна, не хапіла вопытнага рэдактара, бо ў тэксце ёсць і паўторы, і недакладнасці. Напрыклад, крыж у цэнтры Слоніма быў усталяваны ў 1991 годзе, а не ў 1993-м.* Дакументы пра гэта публікаваліся на старонках "СК".** Пра 1991 год, як час усталявання крыжа, пісаў удзельнік тых падзей, краязнаўца Васіль Супрун.*** Ды і хапае сведак, якія памятаюць, калі гэта было. На жаль, памылковая дата з кнігі Івана Бедкі ўжо пачала вандраваць па публікацыях у інтэрнэце.****

"Дэмакратычны рух..." нагадвае ўспаміны дзеячоў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў міжваенны час. Акцыі, улёткі, затрыманні, суды, штрафы, адміністрацыйны арышт. Нашыя дзяды і прадзеды таксама змагаліся за лепшае і справядлівае жыццё, за свабоду. Гэта таксама быў актыў — тыя, хто не баяўся рэпрэсій. Цікава, што гартаючы спісы змагароў 1920-1930-х, сустракаў прозвішчы некаторых цяперашніх актывістаў. Такая вось повязь пакаленняў.

Кніга Івана Бедкі — гэта цаглінка ў гісторыю Слонімшчыны найноўшага часу, якая яшчэ будзе напісана. Ён спадзяецца, што яго хроніка/летапіс не абарвецца, нехта працягне фіксаваць для гісторыі важныя падзеі. У тым ліку і тыя, якія абмінаюць увагай дзяржаўныя СМІ.

●Сяргей Ёрш

**Бедка І. Дэмакратычны рух на Слонімшчыне: 1989 — 2019 гг. Агляд-хроніка. — Мінск, 2019. С. 7.*

*** Ёрш С. Папка Рудольфа Пастухова // Слонімскі край, 2017, № 9(19). Верасень. С. 6, 8.*

****Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 154.*

*****Грамадскі актывіст са Слоніма адзначае юбілей // https://www.racyja.com/hramadstva/gramadski-aktyvist-sa-slonima-adznach/*

Усе нумары краязнаўчага месячніка "Слонімскі край", якія выйшлі на працягу 2016-2020 гадоў, можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/slonimski_kraj

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім




*Працяг, пачатак у № 8-12, 2019*

З-за рэвалюцыі змянілася і ўсё жыццё. У вучэльню мы хадзілі толькі па абавязку, так бы мовіць, з прыстойнасці. Пра ўрокі неяк не думалася. Яны падаваліся такімі чужымі, далёкімі і непатрэбнымі ў параўнанні з тым, что прыйшло.

У агульных рысах наша школьная сітуацыя амаль не змянілася. Мы з грахом папалам адказвалі ўрокі, выслухоўвалі тлумачэнні настаўнікаў, але думкі былі занятыя іншым, а ў шуфлядах партаў было поўна нелегальнай літаратуры. Большасць вучняў нашай гарадской вучэльні не былі захоплены рэвалюцыйнымі павевамі, тым больш ярка і рэльефна вылучаліся мы, рэвалюцыйная меншасць, і гэтая меншасць не магла не звяртаць на сябе ўвагу вучэльнага начальства. Гэта было не таму, што мы былі кепскімі канспіратарамі. Проста ў нас было шмат назапашаных сіл, маладога запалу, светлага энтузіязму, і мы бравіравалі нашай далучанасцю да рэвалюцыі.

Амаль кожную перамену, як толькі настаўнік знікаў за дзвярыма і частка школьнікаў выбягала на вуліцу, сцены старэйшага класа агалошваліся рэвалюцыйнымі песнямі: “Марсельезай”, “Варшавянкай”, “Дубінушкай”, “Смела, таварышы, у нагу”, “Пахавальным маршам”. Неўзабаве стала моднай “Вучнёўская марсельеза”, надрукаваная ў адной з легальных прагрэсіўных газет. На жаль, у памяці захаваліся толькі два куплеты:

*На борьбу за свободную школу*
*Мы поднимемся в целой Руси.*




*Друг-товарищ, не падая духом,*

*Смело знамя свободы неси.*

*Циркулярным педантам заявим*

*Да известно пусть будет всем им,*

*Что мы ищем свободы и света,*

*Ненавидим их школьный режим…*

Пасля кастрычніцкіх дзён [1905 года] па Расіі прайшла хваля крывавых яўрэйскіх пагромаў. Пра подзвігі чорнай сотні распаўсюджваліся самыя змрочныя весткі. Газет нельга было чытаць без уздрыгу. Стварыўся пагромны настрой і ў Слоніме, і разліўся па ўсім павеце, асабліва па такіх мястэчках, як Ружаны, Косава, Быцень, Дзятлава і інш. У Слоніме з'явіўся шэраг падазроных невядомых асобаў, узмоцнена пашыраліся чуткі пра пагром супраць яўрэяў. Наколькі пагромная атмасфера была моцная, можна меркаваць з таго, што наш інспектар Батурын, манархіст па перакананні, але відаць не чорнасоценец, разы два абыходзіў класы і бацькоўскім тонам папярэджваў навучэнцаў, прасіў не швэндацца па горадзе з-за таго, што ў горадзе з'явіліся кепскія людзі, якія збіраюцца ўчыніць беспарадак, разграміць яўрэйскія крамы, збіць навучэнцаў і яўрэяў.

Калі чарнасоценцы ў Слоніме рыхтаваліся да пагрому ўсур'ёз, то не драмалі і рабочыя арганізацыі. Неадкладна стварылася вельмі моцная яўрэйская самаабарона, якая пільна сачыла за ўсімі падазронымі людзьмі і месцамі. Нярэдка самаабарона пасылала атрады ў мястэчкі, дзе чакаўся пагром і прадухіляла яго. Адзіная спроба ўчыніць пагром у мястэчку Косаве, падчас прызыву навабранцаў, у кастрычніку 1905 года пацярпела няўдачу. Косаўскія бундаўцы і максімалісты з дапамогай слонімскіх таварышаў нацкавалі бушуючы натоўп на дзяржаўныя ўстановы: валасное ўпраўленне, пошту і вінныя лаўкі, пры гэтым апошнія былі разгромлены дашчэнту. Энергія, знаходлівасць і арганізаванасць рэвалюцыянераў прадухілілі пагром…

Быў позні вечар, здаецца, 1-га лістапада. Злёгку марозіла. На біржы панавала незвычайнае ажыўленне і мітусня. Штуршком было паведамленне Пецярбургскага Савета рабочых дэпутатаў пра падрыхтоўку другой усеагульнай забастоўкі — пратэсце супраць перадачы пад ваенна-палявы суд севастопальскіх матросаў-паўстанцаў, увядзення вайсковага становішча ў Польшчы і яўрэйскіх пагромаў. Незлічоны натоўп хваляваўся і бурліў. На ўсіх кутах раскідваліся і раздаваліся пракламацыі, ладзіліся лятучыя мітынгі, абмяркоўваўся бягучы момант. Зняўшы свае вучнёўскія значкі, мы таксама бадзяліся па біржы і былі заражаныя агульным пачуццём.





На рагу адной з вуліц, якая ўпіралася ў біржу, да групы вучняў гарадской вучэльні падышлі некалькі рабочых. Яны коратка выклалі нам бег падзей і заклікалі ўзяць удзел у забастоўцы, якая рыхтавалася, арганізаваўшы яе ў нашай вучэльні. Калі б мы былі праінфармаваныя ўдзень падчас заняткаў, то арганізаваць яе, відаць, было б не цяжка. Але цяпер, уначы, калі школьнікі раскіданыя па сваіх кватэрах у розных канцах горада і нічога не ведаюць пра падзеі, — гэта здавалася амаль немагчымым.

●А. Левандоўскі

*Працяг у наступным нумары*

# Невядомы школьны часопіс

Дагэтуль лічылася, што першым польскамоўным школьным выданнем на Слонімшчыне быў часопіс "Żyrowiak", які пачаў выдавацца ў 1928 годзе (праўда, спачатку пад іншай назвай) навучэнцамі Жыровіцкай дзяржаўнай сярэдняй сельскагаспадарча-лясной школы.[1] Аднак летась у Варшаве выйшла з друку даследаванне ксяндза Ежы Зайца, прысвечанае каталіцкай перыёдыцы на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны час.[2] У кнізе згадваецца невядомае нам слонімскае выданне: "Ku Przyszłości", Słonim 1926 [miesięcznik młodzieży polskich szkół średnich w Słonimiu];[3] "У будучыню", Слонім 1926 [месячнік моладзі польскіх сярэдніх школ у Слоніме].

Інфармацыя пра выданне кароткая. Гэта можа азначаць, што Ежы Заяц часопіс не бачыў, а знайшоў толькі згадку пра яго. Магчыма, што ўвогуле не захавалася ніводнага асобніка згаданага перыёдыка слонімскіх школьнікаў. Наклад мог быць мізэрным.

У кнізе польскага даследчыка згадваюцца і іншыя слонімскія перыядычныя выданні 1920-1930-х гадоў, і яны нам добра знаёмыя. Заяц піша, што *"800-гадовы горад"* увайшоў у гісторыю польскага перыядычнага друку. І сярод яскравых прыкладаў згадвае польскамоўны праект беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна і яго жонкі Кацярыны — "Газету Слонімскую" 1938-1939 гадоў.




З захапленнем аўтар піша пра слонімскіх дзяўчат, якія стваралі часопіс „W Górę Serca" ("Угору сэрцы"), былі апантанымі ўдзельніцамі краязнаўчага руху. Ёсць у даследаванні і тэкст пра беларускамоўны альбярцінскі ўніяцкі часопіс "Да злучэньня!" і яго рэдактара айца Антона Неманцэвіча.

●СЁ

*[1] Ёрш Сяргей, Чыгрын Сяргей. Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916 — 2016). — Мінск: Кнігазбор, 2016. С. 14.*

*[2] ks. Jerzy Zając. Czasopiśmiennictwo kościelnej prowincji wileńskiej w II Rzeczypospolitej. — Warszawa, 2019.*

*[3] Тамсама. S. 309.*

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com